

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*

# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 19 (456) 17 ТРАЎНЯ 2000 г.

## Адкрыты ліст

### да кіраўніцтва Менгарвыканкама

**Спадару Міхаілу Паўлаву**
**Старшыні Менскага гарвыканкама**
**# 8, Скарыны пр-т, 220050, Менск**

**ТБМ не жадае прапагандаваць родную мову і нацыянальную адукацыю сярод сабакароў!**

22 красавіка 2000 году кіраўніцтва Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны накіравала ў Менгарвыканкам заяўку на правядзенне мітынгу з мэтай агітацыі за беларускамоўную адукацыю, стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта, а таксама з нагоды 5-ых угодкаў майскага рэферэндуму 1995 года. У заяўцы за месца правядзення мітынгу мы прапанавалі пляцоўку ля Палацу культуры чыгуначнікаў (вул. Чкалава). Менавіта там адбыўся апошні мітынг ТБМ у верасні мінулага года.

Аднак новае кіраўніцтва Менгарвыканкама без аніякага ўзгаднення з нашай арганізацыяй 5 траўня прыняло рашэнне перанесці мітынг на пляцоўку ў парку Сяброўства народаў, што на былым балоце. Прычым пісьмова нам пра гэта паведамілі толькі 10 траўня.

У звязку з гэтым кіраўніцтва ТБМ лічыць немагчымым і абразлівым для агульнабеларускай грамадскай арганізацыі, якая налічвае ў сваіх шэрагах каля 6 тысячаў сяброў, ладзіць мітынг у абарону роднай мовы і нацыянальнай адукацыі ў месцы, дзе жыхары ваколіцаў звычайна выгульваюць сабак!

Мяркуем, што, заняўшы такую негатыўную і неканструктыўную пазіцыю, новае кіраўніцтва Менгарвыканкама, не паспеўшы прыдбаць, адразу ж рызыкуе страціць павагу значнай часткі менчукоў.

*Старшыня ТБМ Алег Трусаў.*

---

**Старшыні Лідскага гарвыканкама**
**Уладзіміру Мальцу**
**Ад старшыні Лідскай гарадской рады ТБМ імя Францішка Скарыны Станіслава Судніка**

**Заява**

Прашу даць дазвол на правядзенне пікету ў абарону беларускай мовы.

Дата: 14 мая 2000 г.
Час: з 10.00 да 13.00.
Месца: Курган Бессмяроцця.
Меркаваная колькасць удзельнікаў: 5-10 чалавек.
Грамадскі парадак гарантую.
28.04.2000 г. Старшыня Лідскай гарадской рады ТБМ імя Францішка Скарыны С.Суднік

**Лідскі гарадскі выканаўчы камітэт**

**РАСПАРАДЖЭННЕ**

ад 05. 05. 2000 г. № 203-р г. Ліда
Аб правядзенні пікету

У сувязі з недакладнасцю вызначанай у заяве мэты адмовіць грамадзяніну Судніку С.В. у правядзенні пікету 14 мая 2000 года.

Старшыня гарвыканкама У.М. Малец

## Віншуем сяброў ТБМ з Бешанковічаў!

Сакратарыят ТБМ віншуе сяброў Бешанковічскай суполкі ТБМ якія пасля амаль гадовага змагання дабіліся афіцыйнай рэгістрацыі ў мясцовым райвыканкаме, што адбылася 29 сакавіка 2000 года.

Такім чынам новая арганізацыя ТБМ на Віцебшчыне, якая стварылася ў сакавіку 1999 г набыла свой афіцыйны статус.

Сакратарыят

---

**Спадару Чумакову А.П.**
**Міністру абароны Рэспублікі Беларусь**
**220003, г. Мінск, вул.камуністычная, 1**

### Паважаны спадар Чумакоў!

У сувязі з веснавым наборам на тэрміновую службу да нас звяртаюцца прызыўнікі, занепакоеныя поўным ігнараваннем дзяржаўнай беларускай мовы ў войску.

Нам вядома, што нават тэкст прысягі на вернасць Беларусі чытаецца навабранцамі на мове суседняй дзяржавы, па-руску. Няма вайсковых статутаў на беларускай мове. уся выхаваўчая работа і ваенная падрыхтоўка вядзецца выключна па-руску. Адзіная вайсковая газета "Во славу Родины" таксама рускамоўная.

З гэтай нагоды мусім прыцягнуць Вашу ўвагу да вынікаў перапісу, паводле якога 81,6% насельніцтва нашай краіны – беларусы, а 85,6% з іх вызначаюць беларускую мову як родную. Прычым амаль палова беларусаў карыстаецца ў сваім паўсядзённым жыцці толькі беларускай мовай. Улічваючы той факт, што большасць хлопцаў прызываецца ў войска з невялікіх гарадоў і вёсак, дзе атрымалі сярэднюю адукацыю па-беларуску, лічым цалкам ненатуральным стан рэчаў, калі падчас вайсковай службы яны падвяргаюцца дыскрымінацыі па моўнай прыкмеце. Да таго ж нярэдка беларускамоўным салдатам даводзіцца трываць кпіны ад сваіх саслужыўцаў і вайсковага начальства за так званы беларускі акцэнт.

Таварыства беларускай мовы заклапочанае аўтарытэтам беларускага войска. Мы жадаем, каб служба ў войску была прыцягальнай і прэстыжнай для маладых грамадзян Беларусі. З гэтай мэтай мы прапануем Міністэрству абароны ўжо падчас вайсковай прызыўной кампаніі 2000 года зрабіць наступнае:

- Паколькі ў нашай краіне дзве дзяржаўныя мовы, раім стварыць у кожнай вайсковай часці беларускамоўныя батальёны, для кіравання якімі падабраць афіцэраў, якія валодаюць беларускай мовай у аб'ёме, неабходным для правядзення выхаваўчай работы і вайсковай падрыхтоўкі.
- Забяспечыць усе вайсковыя часткі тэкстам прысягі на беларускай мове, і прыняць адпаведныя захады па правядзенні ўрачыстасцяў з нагоды прыняцця навабранцамі прысягі на вернасць Радзіме на мове тытульнай нацыі нашай краіны.
- Перакласці на беларускую мову вайсковыя статуты.
- Надаць газеце "Во славу Родины" статус двухмоўнай і прадугледзяць, каб не менш за 50% матэрыялаў друкаваліся па-беларуску.
- Узнавіць курсы беларускай мовы для афіцэрскага складу.

Дзеля гэтага прапануем Вам сваё супрацоўніцтва. Мы маем добра распрацаваную вайсковую тэрміналогію, дапаможам зрабіць пераклад статутаў, параім добрых выкладчыкаў для вядзення курсаў па вывучэнні беларускай мовы.

Мы ўпэўненыя, што рэалізацыя гэтых прапаноў значна павысіць аўтарытэт Міністэрства абароны, пазбавіць незычлівую магчымасці абвінавачваць Вашую ўстанову ў дыскрымінацыі беларускамоўных грамадзян, значна палепшыць маральна-псіхалагічную сітуацыю ў беларускім войску, а галоўнае – паспрыяе наданню беларускай мове рэальнага статуса дзяржаўнай.

*З павагай і надзеяй на паразуменне*
*старшыня ТБМ Алег Трусаў.*

---

**Таварыстваа беларускай мовы імя Францішка Скарыны выказвае шчырыя спачуванні спадарыні Марыі Мацюкевіч, старшыні Салігорскай раённай арганізацыі ТБМ з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора – заўчаснай трагічнай смерці сына.**
**Трымайцеся, спадарыня Марыя! У Вашай бядзе мы разам з Вамі!**

---

## Устаноўчая канферэнцыя Берасцейскай вобласці

Адбылася ўстаноўчая канферэнцыя Берасцейскай вобласці. на парадку дня разглядалася асноўнае пытанне – стварэнне Берасцейскай абласной арганізацыі ТБМ. Прысутнічала 18 дэлегатаў з Берасця, Бярозы, Баранавіч і інш.

На канферэнцыі абраная Рада Берасцейскай абласной арганізацыі. У яе ўвайшлі 13 сяброў ТБМ: Уладзімір Фукс (Берасце), Тамара Лісічык (Жабінка), Іван Жытко (Камянец), Віктар Сырыца (Баранавічы), Ларыса Жмачынская (Белаазёрск), Станіслаў Чарнецкі (Кобрын), Васіль Вабішчэвіч (Давыд-Гарадок), Мікола Новік (Берасце), Ірына Дубейка (Новая Мыш), Алесь Ярась (Берасце), Зоя Мельнікава (Берасце), Іван Здановіч (Пружаны), Марыя Новік (Берасце).

Старшынёй Берасцейскай абласной арганізацыі аднагалосна абраная Марыя Новік, дацэнт Берасцейскага універсітэта, старшыня гарадской Рады ТБМ.

У сувязі з тым, што абласная арганізацыя не прайшла перарэгістрацыю, выкананне гэтай абавязковай умовы для жыццядзейнасці стане першачарговай задачай рэгіянальнай структуры ТБМ.

**27.04.2000г.** Людміла Дзіцэвіч

## Прэмія прысуджана Вінцуку Вячорку

10 траўня ў сядзібе БНФ адбылася прысуджэньне прэміі часопіса "ARHE – за сумленнае слова". Гэтую ганаровую прэмію, якая была прысуджана ўпершыню атрымаў Вінцук Вячорка, з фармулёўкай – за сумленнае слова ў палітыцы.

Перад прысутнымі журналістамі і іншымі вядомымі асобамі выступілі Уладзімір Арлоў і Адам Глёбус. У прыватнасці спадар Арлоў свае віншаванні скончыў вядомым старажытным афарызмам: - "Res suis vocabulis nominare", што перакладаецца як – называй рэчы сваімі імёнамі. А Адам Глёбус зазначыў, што калі небудзь прэмія "ARHE" будзе каштаваць адзін талер.

У сваім выступленні Вінцук Вячорка ў прыватнасці зазначыў, што беларуская мова тая аснова ад якой палітыку не гледзячы ні на якія рэйтынгі ні на што іншае нельга адмаўляцца.

*Алесь Гурыновіч.*

### Бешанковічы гавораць па-беларуску

У Віцебскай вобласці беларускую мову называюць роднай 84% беларусаў, з іх 37% размаўляюць дома пабеларуску. Адным з лепшых на Віцебшчыне у гэтым сэнсе з'яўляецца Бешанковіцкі раён. Тут жыве 92,6% беларусаў, і па беларуску штодня гаворыць 95,7% жыхароў раёна.

*Паводле бюлетеня ТБМ з Бешанковіч "Кардон".*

## Ахвяраванні на ТБМ

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Аркадзь Прыюжын (Масква) | 1000 руб |
| 2. | Слуцкая Рада ТБМ | 1000 руб |
| 3. | Сям'я Шкірманковых (Слаўгарад) | 1000 руб |
| 4. | Алесь Чэчат (Менск) | 1000 руб |
| 5. | Казлоўская І.І.(Менск) | 300 руб |
| 6. | Жыновіч П.В. (Менск) | 3000 руб |
| 7. | Сям'я Вяргей (Менск і Петрыкаў) | 2500 руб |
| 8. | Людміла Леўчанка (Касцюковічы) | 500 руб |
| 9. | Георгі Мішчук (Менск) | 2000 руб |
| 10. | Суполка ТБМ "Рэфармацыя" | 10$ |
| 11. | Петрушкевіч В.І. (Менск) | 1100 руб |
| 12. | Авер'ян Дзеружынскі | 1 $ |
| 13. | Міхась Чарняўскі (Менск) | 1000 руб |
| 14. | Уладзімір Казьбярук | 1000 руб |

Таварыства Беларускай мовы імя Францішка Скарыны звяртаецца да ўсіх грамадзян Беларусі падтрымаць дзейнасць Таварыства. Сакратарыят просіць дасылаць ахвяраванні на адрас: 220005, г. Менск, Румянцава, 13, або пералічаць на рахунак ТБМ № 3015212330014 у Гардырэкцыі Белбізнесбанка г. Менска, код 764. Кантактныя тэлефоны ў Менску 284-85-11, 213-43-52.

# Педагог і народазнавец



Не адно пакаленне студэнтаў Беларускага універсітэта культуры ведае прафесара кафедры гісторыі і музеязнаўства Івана Кірылавіча Цішчанку. Калі гэты энергічны чалавек з праніклівым позіркам ідзе па калідоры, яго вітаюць паважлівымі поглядамі і заўсёдным "Добры дзень".

І не дзіва, лекцыі прафесара Цішчанкі, аднаго з вядучых фалькларыстаў рэспублікі, уражваюць і зацікаўліваюць нават не вельмі ахвочых да навукі студэнтаў. Любяць яго за справядлівыя адносіны, дасціпнасць і пачуццё гумару, а самае галоўнае – за ўменне шчодра дзяліцца сваім глыбокім веданнем народнай культуры.

Іван Кірылавіч Цішчанка нарадзіўся і ўзгадаваўся на Слаўгародчыне. Гэты край упершыню загаварыў да яго беларускім словам, напеў яму беларускую песню.

У сям'і Цішчанкаў бацька Кірыла Анісімавіч ведаў адмысловыя пчалярскія замовы, сын Аляксей захапляўся прыгожым пісьменствам, ужо да вайны ў друку з'яўляліся яго вершы. А самае галоўнае, маці Таццяна Васільеўна і дачка Вольга цудоўна спявалі народныя песні.

Так ад сям'і, ад самых вытокаў фармавалася любоў, а потым і навуковае зацікаўленне Івана Кірылавіча Цішчанкі да народнай культуры.

Падчас вучобы ва універсітэце будучы народазнаўца займаўся студэнцкай навукай, штогод выязджаў у экспедыцыі пад кіраўніцтвам вядомага лінгвіста, доктара філалагічных навук М. А. Жыдовіч. запісы гэтых экспедыцыйных матэрыялаў увайшлі ў акадэм. выданне "Дыялектычны атлас беларускай мовы". (Мн.1963)

Потым былі гады працы ў Інстытуце этнаграфіі і фальклору АН Беларусі – манаграфіі, брашуры, 5 тамоў з шматтомнага збору БНТ, падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, хрэстаматыі і звыш 250 артыкулаў, нарысаў, эсэ, рэцэнзій.

У хрэстаматыях па беларускім фальклоры, адным з укладальнікаў якіх з'яўляецца І.К.Цішчанка, змешчаны замовы і песні з роднай яму Слаўгародчыны.

Ужо працуючы ў Беларускім універсітэце культуры, І.К.Цішчанка разам з прафесарам П.А.Гудам і дацэнтам І. І. Сучковым выязджаў у фальклёрна – этнаграфічныя экспедыцыі. Былі сабраныя унікальныя абрады жніва, свята Юр'я, радзін, вяселля, сотні каляндарных і сямейна–абрадавых песень, а таксама прыпевак і інструментальнай музыкі.

І.К.Цішчанка – аўтар трох кінасцэнарыяў, па якіх знятыя паўнаметражныя дакументальныя фільмы пра А. Русака – 1981 г. пра Р. Шырму – 1986 г., пра М. Забэйду – Суміцкага – 1990 г. У 1988 г. адбыўся дэбют слыннага навукоўца ў мастацкай літаратуры. Апавяданне "Склезень", Маладосць №4.

За навуковыя дасягненні Іван Кірылавіч Цішчанка ўдастоены звання лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, узнагароджаны граматай Вярхоўнага Савета БССР, Ганаровай граматай Савета Міністраў СССР, медалём "Ветэран працы", сябар Саюза пісьменнікаў Беларусі.

22 траўня калектыў выкладчыкаў і студэнтаў Беларускага універсітэта культуры будзе ўрачыста віншаваць І.К.Цішчанку з 70-годдзем.

Будуць усмешкі, кветкі і шчырыя пажаданні. На ўрачыстым канцэрце прагучыць песня "Споведзь", што нарадзілася ў сценах універсітэта: вершы – І.К.Цішчанкі, музыка – дацэнта, загадчыка кафедры эстраднага мастацтва У.П.Угольніка.

А супрацоўнікі кафедры гісторыі цёпла павіншуюць свайго калегу і сябра, пажадаюць яму здароўя і шчасця і папросяць шаноўнага Івана Кірылавіча заспяваць яго любімыя народныя песні.

*А.А. Гулак,*
***ст. выкладчык кафедры гісторыі і музеязнаўства БУК.***



**І. К. Цішчанка, А. М. Адамовіч, В. Ул. Быкаў, Н. М. Грынчык, В. К. Зайцаў, А. І. Мальдзіс. 60-я гады, БДУ.** *Здымак друкуецца ўпершыню.*

Валянціна Выхота

# Нямецка - беларускія моўныя паралелі

*(Працяг. Пачатак у № 15)*

***Бавоўна. Ватападобнае валакно, якое ідзе на выбар пражы, цэлюлозы і інш. (ТСБМ).*** **Baumwolle wird zu Stoffen, Garnen, Watte u. a.verarbeitet** (MJL).

**Бавоўна. Баваўнянка.** Ням. **Baumwolle** *f* складанае слова – **Baum** *m* *дрэва* і **Wolle** *f* *воўна.* Раней думалі, што бавоўна расце на дрэвах. С.-в.-ням. (XII ст.) **boumwol(l)e**; прыметнік **boumwollen** сучасны **baumwollen**. Герадот расказвае аб "дрэвах", з якіх індусы робяць сваё адзенне.

***Завецца гэта жывёла альпагай, і каштоўная яна сваёй воўнай (Я.М.).*** **Dieses Schaf hat eine diechte Wolle** (WDG).

**Воўна.** Ням. **Wolle** *f*, с.-в.-ням. **wolle**, ст.-в.-ням. **wolla**, гоц. **wulla** вядуць да герм. ***wullo**, утворанага ад дагерманскага ***ulna**. Адпаведнае ст.-слав. **vluna** лац. **lana** *воўна* ад ***vlana**, таксама роднаснае лац. **vellus** *знятая воўна, руна.*

***Адмовіцца было нельга, хоць Міхал вельмі стаміўся; па іх прыйшоў узброены гайдук, апрануты на польскі манер, у чыкчыры з вялікімі вызалачанымі гаплікамі і ў жоўтых паўбоціках (Каратк.). ...У косах шырокія стужкі размаітых колераў, на шнуроўках свецяцца срэбныя і залатыя гафткі (Я.Б.).*** **Heftel; süddt. österr: Heftel. Heftel, das auch der - ostmitdelt. umg. Haken und Öse zum Zusammenhalten eines Kleidungsstückes** (WDG).

**Гаплік. Аплік.** Ням. **Heftel** *m*, с.-в.-ням. **haftel(in), heftel(in)** *спражка, гачок* – памяншальная форма ад **Haft** *m* *сашчэпка, спражка.* Германскі корань ***haf** *хапаць, браць* і інш. І.-е. корань ***kap-** праступае ў лац. **capio** *хапаю*. Тая ж крыніца слоў *гафтачка, гафтка* – пятля з нітак, шнурка ці дроту для зашпільвання *апліка* (ТСБМ). Параўн. *гафтаваць* – "абкідваць дзірачкі пры вышыўцы, каб не абсыпаліся ніткі тканіны".

***Заклаўшы палец за борт камізэлькі, ён спыніўся ля парога і паглядзеў на Рыгорку вясёлымі вачыма*** (Тк.) **....eine Frau in schwarcen Kamisol und Rock** (J. F. Eichendorff).

**Камізэлька.** Ням. **Kamisol** *n* уст. кароткае адзенне (верхняе). Узыходзіць да с.-лац. **camisia** *кашуля, ільняное адзенне, якое накідвалася на голае цела, з вузкімі рукавамі*. У ХУІІ ст. запазычана з франц. **camisole**, якое ўтворана ад памяншальнай формы с.-лац. **camisia**.

***Як добра расшпіліць вышываны каўнер кужэльнай ці крамнай кашулі (Б.)*** **Sie schneidet sich eine Bluse mit einem Koller (WDG).**

**Каўнер.** Ням. **Koller** *m*. С.-лац. **collarium** *шыйныя даспехі*. Узыходзіць ад лац. **collum** *шыя*. Да немцаў слова трапіла праз два шляхі. Слова трапіла непасрэдна з лац. як ст.-в.-ням. **chollari**. Другі шлях: праз ст.-франц. **collier** *шыйнае адзенне пры ўзбраенні* (XII ст.), як **kollier, gollier**. У с.-в.-ням. **koller** абодва запазычанні зліваюцца. Пасля рыцарскіх часоў засталося *адзенне, што пры шыі ў мужчынскай і жаночай адзежы.*

***Шаўковыя шаравары на дзіцячых ножках трапяталі на ветры, а ў пантофель з чырвонага саф'яну наносіла пясок, бо пантофель зваліўся з ножкі (Каратк.)***, **"Vielleicht", dachte er, "können mir meine Pantoffeln Unterhalt gewähren", und als Schnelläufer zu verdigen** (W. Hauff).

**Пантофель.** Ням. **Pantoffel** *m* *хатнія туфлі без заднікаў*. У беларускай мове *пантофлі* таксама *дамашнія туфлі, звычайна без заднікаў (ТСБМ)*. У нямецкую мову слова запазычана з італ. **pantofola**. Узыходзіць да анамаст. кораня **patt** – *лапа*.

***Панчохі прамоклі, і вы адчуваеце, як непрыемна абляпілі яны вашы ногі (Вас.).*** **Bundschuh (mittelalterl. Bauernschuh; Zeichen u. Name von Bünden aufständ. Bauern)** (GD).

**Панчоха.** Ням. **Bundschuh** *m*, с.-в.-ням. **buntschuoch**, *грубы на шнуроўцы сялянскі чаравік (з рамянямі для прывязвання)*. Адсюль слав. **puncocha** *панчоха*. Гіст. сялянскі рэвалюцыйны саюз у Германіі ў ХУ – ХУІ ст. Назоўнік **Bundschuh** *m* складаецца з двух слоў: **binden** і **shuh**. **Binden** *звязаць*, ст.-в.-ням. **bintan**, гос., ст.-сакс. **bindan**. Мае роднасныя ў іншых індаеўрапейскіх мовах. Параўн.: *бінт, бант*. **Scuh** *m* *чаравік*, с.-в.-ням. **schuoch** *(h)*, ст.-в.-ням. **scuoh.**

*(Працяг у наступных нумарах).*

# НЕ ЦУРАЙЦЕСЯ РОДНАЙ МОВЫ

**Якія знаёмыя назвы і словы,**
**Якая цудоўная родная мова!**
**І ўсё мілагучна для слыху майго:**
**І звонкае "дзе", і густое "чаго".**

***Пімен Панчанка***

Паважаныя сябры, жадаю з вамі пагаварыць аб нашай бацькавай спрадвечнай мове. Хачу ўспомніць былое, ды нагадаць будучае, якое нас чакае. Будучае заўсёды хвалявала людзей сваёй таемнасцю, невядомасцю, непрадказальнасцю. У будучае нельга зазірнуць, але на яго можна паўплываць сваімі ўчынкамі і думкамі сёння.

Свабоднае валоданне беларускай мовай дае магчымасць карыстацца ўсімі духоўнымі каштоўнасцямі і здабыткамі навукі. Наша мова мае вялікае значэнне ў выхаванні нацыянальнай самасвядомасці і годнасці беларусаў. Пры дапамозе мовы, як сродку зносін, людзі наладжваюць сувязь паміж сабой, абменьваюцца думкамі, дасягаюць узаемаразумення, пазнаюць навакольны свет, робяць адкрыцці. Менавіта праз мову чалавек далучаецца да нацыянальна-культурнай спадчыны і гісторыі. Усё гэта павышае гонар за мінулае і адказнасць за будучае свайго народа.

Карані беларускай мовы у глыбіні сівых вякоў. У шматнацыянальнай дзяржаве Вялікае княства Літоўскае беларуская мова была дзяржаўнай. Надзвычай вялікую ролю ў развіцці беларускай мовы адыграла дзейнасць усходнеславянскага першадрукара, гуманіста, перакладчыка Францыска Скарыны, які надрукаваў на беларускай мове шмат кніг. Дзейнасць Скарыны працягвалі Сымон Будны, Васіль Цяпінскі і іншыя.

З уваходам Беларусі ў Рэч Паспалітую склаліся вельмі неспрыяльныя ўмовы для развіцця беларускай мовы. Дзяржаўнай мовай стала польская, праводзілася палітыка прымусовага апалячвання. А беларуская знаць прыняла каталіцкую веру і дабраахвотна стала карыстацца польскай мовай. Пасля трох падзелаў Рэчы Паспалітай Беларусь увайшла ў Расійскую імперыю. Рускі царызм пачаў праводзіць палітыку русіфікацыі. Але беларуская мова і беларуская літаратура працягвалі існаваць і развівацца. Беларускі народ, нягледзячы на ўсе перашкоды, захаваў на працягу стагоддзяў сваю мову, звычаі, культуру.

У цяперашні час вельмі важна выхаваць маладых беларусаў так, каб яны любілі і шанавалі бацькоўскую зямлю, матчыну мову, ведалі мінулае свайго краю. На жаль, цяпер усё менш і менш людзі карыстаюцца беларускай мовай. Скарачаецца колькасць беларускіх школ і класаў. А гэта вельмі сур'ёзная бяда для беларусаў, бо калі не будзе мовы, то знікне і нацыя, знікне сама Беларусь.

Калі сярод сучаснай моладзі размаўляць на беларускай мове, то на цябе глядзяць, як на белую варону. Як трапна сказаў Анатоль Вярцінскі: "Баіцца быць беларус беларусам".

Мы ганарымся вялікімі майстрамі роднага слова, якія агучылі яго цэламу свету. А самі саромеемся выказаць свае думкі роднымі мілагучнымі словамі. Беларуская мова – гістарычная і адметная. Яна не павінна быць ахвяравана на самазабыццё і скасаванне ў афіцыйным выкарыстанні і звычайным ужытку. Яна павінна пашырацца і выконваць вядучую ролю ў развіцці нацыянальнай культуры. Дык давайце ж шанаваць і паважаць родную беларускую мову – мову нашых бацькоў!

***Кавалёнак Кацярына, вучаніца 9-а класа Бешанковіцкай сярэдняй школы № 1, сябар гуртка "Юны журналіст".***

**Да 100-годдзя з дня нараджэння Гарэцкага Гаўрылы Іванавіча, акадэміка АН Беларусі, геолага, географа, эканаміста, грамадскага дзеяча Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь выпусціла юбілейны канверт са спецыялізаванай маркай, якая адлюстроўвае сферы дзейнасці акадэміка Г. І. Гарэцкага.**





**Алесь Петрашкевіч**

# ПРАГНОЗ НА ПАСЛЯЗАЎТРА

**(Фарс у дзвюх дзеях)**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Сапежанка.** Я так и поняла... И прошу участников процесса не выходить за рамки рассматриваемого дела и не накалять страсти в суде... *(Пасля паўзы.)* В нашей не простой языковой ситуации предлагаю компромиссное решение: я вяду пасяджэнне суда на беларускай мове, падсудны і яго абаронца таксама карыстаюцца ёю, а той, хто не разумее па-беларуску, акрамя, вядома, сведкаў і эксперта, заяўляе самаадвод. Што да прадстаўніка пацярпелага, то суд забяспечыць яму перакладчыка.

**Суворов.** Как-нибудь обойдёмся и без "перакладчыка". Не первый день за Белоруссией замужем.

**Сапежанка.** Хто настойвае на самаадводзе?.. Ніхто! Значыць, усе ўсё разумеюць па-беларуску. Ці настойвае падсудны на прызначэнні перакладчыка?

**Касцюшка.** Абарона і падсудны згодны з такімі ўмовамі.

**Муравьёв.** Настаиваю на занесении в протокол так называемого компромиссного решения. Уверен, что оно явится неприкрытым давлением на участников процесса и непременно послужит основанием для отмены приговора, даже если им не воспользуется преступник.

**Касцюшка.** Я пратэстую! Пакуль прысуд не ўступіць у законную сілу, перад намі толькі падсудны, а не злачынца. Для пракурора гэта элементарна. І я патрабую, каб ён прынёс прабачэнні суду і майму падабароннаму.

**Сапежанка** *(пасля працяглай паўзы)*. Суд выносіць папярэджанне пракурору Мураўёву.

**Муравьёв.** Приношу извинения суду, подсудимому и его адвокату. Кстати, с вашего разрешения, уважаемый председатель суда, хотел бы спросить секретаря, сможет ли она вести протокол сразу на двух языках?

**Агінская.** Пры неабходнасці я змагу весці яго на французскай, англійскай і польскай мовах і, вядома ж, на руска-беларускай трасянцы, з якой мы сёння, бадай што, сустрэліся.

**Сапежанка.** У спадарыні Агінскай дэвіз: чалавек столькі разоў чалавек, колькі ён ведае моў.

**Каліноўскі** *(нечакана плёскае ў далоні)*. Брава! Брава, спадарыня Агінская!

*Канвойныя адшпільваюць дубінкі.*

**Сапежанка.** Калі падсудны будзе апладзіраваць у час судовага пасяджэння, я прыму рашэнне адзець на яго наручнікі!

**Каліноўскі.** Тады пры добрым настроі я буду калаціць ілбом у сцяну ці аб гэтыя краты. *(Садзіцца).*

**Суворов.** Юмор висельника!

**Сапежанка.** Яшчэ адна такая заўвага і вы, грамадзянін Сувораў, будзеце аштрафаваны судом! Падсуднаму таксама не раю дазваляць сабе недазволенага.

**Суворов.** Извините!

**Каліноўскі.** Калі што было не так, прабачце.

**Сапежанка.** Падсудны, устаньце!

*Каліноўскі ўстае.*

Паважаны дзяржаўны абвінаваўца, ваша слова!

**Муравьёв.** На суд присяжных выносится дело по обвинению Константина Константиновича Калиновского в том, что он 9 мая этого года в 13 часов и 40 минут около пивного бара "Русичи" по улице Коммунистической с целью политической мести за общественную деятельность нанёс удар пивным бокалом в левый висок гражданину Иванову-Чингизханову Авангарду Батыевичу, от чего смерть последнего наступила сразу же на месте преступления, предусмотренном статьёй 100 УК РБ пункт "в" – умышленное убийство с отягчающими обстоятельствами... *(Садзіцца на месца).*

**Сапежанка.** Падсудны, ці зразумелыя вам фактычны і юрыдычны бок прад'яўленага абвінавачання?

**Каліноўскі.** Так, зразумелыя. Але няхай бы пракурор усё ж пацвердзіў, па кодэксу якой рэспублікі мяне будуць судзіць.

**Муравьёв.** По-моему, я сказал совершенно определенно – Республики Белоруссии.

**Каліноўскі.** Не ведаю такой рэспублікі.

**Муравьёв.** Я попросил бы судью посоветовать подсудимому...

**Касцюшка** *(перапыняе Муравьёва)*. А я папрасіў бы пракурора дакладна назваць дзяржаву, ад імя якой ён будзе абвінавачваць майго падабароннага.

**Сапежанка.** Паважаны абвінаваўца, прашу пацвердзіць, што вы мелі на ўвазе Крымінальны Кодэкс Рэспублікі Беларусь.

**Муравьёв.** Да! Я имел в виду именно её. И именно её в России называют Белоруссией, а не Беларусью.

**Сапежанка.** Гэта ўжо справа Расіі. Што да нашай пракуратуры, то яна можа абвінавачваць толькі ад імя Рэспублікі Беларусь...

Падсудны, ці прызнаеце вы сябе вінаватым?

**Каліноўскі.** Не прызнаю і ніколі не прызнаю, бо лічу сябе чалавекам сумленным перад людзьмі і дзяржавай... нават перад такой, як наша...

**Муравьёв.** Прошу председателя суда внести в протокол выпад подсудного против нашей поистине суверенной, нейтральной и независимой державы, на сколько бы в этом кто-то не сомневался.

**Каліноўскі.** Яна ў нас такая ж "независимая", як і пракуратура.

*Сапежанка настойліва звоніць у званочак.*

**Муравьёв.** Или судья будет вести заседание надлежащим образом, или я откажусь от участия в этом балагане присяжных.

*Шум і абурэнне сярод прысяжных.*

**Сапежанка** *(дамогчыся цішыні)*. Даруем пракурору яго бестактоўнасць да суда, але ў апошні раз!.. *(Паўза).*

Падсудны, чаму вы ўзялі такі тон паводзін у судзе? Гэта вам можа толькі пашкодзіць.

**Каліноўскі.** Горш, чым ёсць, мне ўжо не будзе. Каб пераканацца ў гэтым, варта толькі падзівіцца на пракурора і падабраную вамі класава-прадстаўнічую Калегію прысяжных. Хіба яны разам з вамі не падвядуць мяне пад шыбеніцу?

**Сапежанка.** Чаму вы ў такім разе не заявілі адвод тым прысяжным, якім не даверяеце?

**Каліноўскі.** Хачу паглядзець спектакль. *(Дэманстратыўна садзіцца).*

*Зноў незадаволенасць сярод прысяжных. Усхваляваны і канвойныя – не ведаюць, як падняць з лавы падсуднага.*

**Сапежанка.** Прысяжныя прынялі прысягу. Суд будзе кіравацца законам. Вы маеце адваката.

**Каліноўскі.** А то мы з вамі не ведаем, што ў нас закон – дышла! Суду і ўладам трэба палітычны працэс над прыдуманым імі "беларускім нацыяналізмам". А калі так, то яны будуць яго мецы! *(Апантана трасе краты клеткі).*

*Канвойны б'е дубінкай па пальцах Каліноўскага.*

*Ад нечаканасці ахвяра "дэмакратыі" спачатку губляецца, а потым рагоча – хоць і не весела, але доўга. Многія шакіраваны – хто дубінкаю, а хто рогатам. Нечакана Каліноўскі абрывае смех. Усталёўваецца абсалютная цішыня. Чуваць толькі, як стукае аб шклянку графін, з якога Агінская налівае ваду. Налівае і падносіць да кратаў. Каліноўскі адпівае колькі глаткоў.*

**Каліноўскі.** Шчыра дзякую, спадарыня Агінская. *(Садзіцца, разглядае пальцы).*

*Канвойны забірае ў Каліноўскага шклянку і вяртае Агінскай. Яна ідзе садзіцца на сваё мейсца.*

**Сапежанка** *(вельмі спакойна, нібы нічога і не здарылася)*. Устаньце, падсудны. *(Пасля паўзы).* Паважаны пракурор, паважаны прадстаўнік пацярпелага і адвакат падсуднага, ці згодны вы пачаць судовае следства з допыту падсуднага.

*Усе пагаджаюцца.*

Падсудны Каліноўскі! Суд прапануе вам даць па магчымасці поўныя паказанні па прад'яўляемаму вам абвінавачанні і вядомых абставінах злачынства – наўмыснага забойства грамадзяніна Іванова-Чынгізханава.

**Каліноўскі.** З майго боку ніякага злачынства не было. Я не забіваў Іванова-Чынгізханава.

**Суворов** *(амаль крычыць)*. Сволочь! Какая сволочь!..

**Касцюшка.** Прашу суд абараніць падсуднага ад грубых зняваг!

**Суворов** *(істэрычна)*. Один подлюга убил славного ветерана, доблестного сына, беззаветного защитника социалистического Отечества, а другой подлюга его защищает!

**Сапежанка.** За публічную зняваагу падсуднага і яго абаронцы суд пастанаўляе: аштрафаваць спадара Суворава ў памеры двух мінімальных зарплат.

**Суворов** *(аж вішчыць)*. Я вам не "спадар"! Не хотите пользоваться "товарищем", пользуйтесь хоть горшком, но я вам не "спадар"!

*Агінская падае Суворову шклянку з вадою.*

*(Апіўшы, амаль спакойна).* Между прочим, "спадары", "спадарыні" і "жыве Беларусь" даже на теле-радио запрещены по рекомендации...

**Сапежанка.** Я не ведаю, што там і па чыёй рэкамендацыі, але калі вы яшчэ хоць адзін раз дазволіце сабе такі ўсплёск, вам давядзецца пакінуць залу суда. *(Да Каліноўскага.)* Прадаўжайце, падсудны!

**Каліноўскі.** Я сказаў ўсё.

**Сапежанка.** Паважаны абвінаваўца, вядзіце допыт падсуднага.

**Муравьёв.** Подсудимый Калиновский, судя по материалам дела, во время следствия Вы были не только более разговорчивы, но и достаточно писучи. *(Зачытвае з аркуша).* " Я, Константин Константинович Калиновский, по мотивам политической мести нанёс гражданину Иванову-Чингизханову Авангарду Батыевичу удар пивным бокалом в область левого виска, от чего последний упал замертво здесь же около пивной стойки при свидетелях Холуевиче Я.Я. и Козалуповой К.К.". Вы подтверждаете эти свои слова?

**Каліноўскі.** Пацвярджаю толькі тое, што пісаў іх пад дыктоўку следчага. Ад зместу адмаўляюся катэгарычна!

**Муравьёв.** Под всеми листами допроса стоят ваши подписи.

**Каліноўскі.** Я паставіў іх толькі таму, што хацеў дажыць да суда... нават да такога, як ваш.

*Усталёўваецца паўза. Муравьёв крыху губляецца.*

**Сапежанка.** Патлумачце сказаныя Вамі словы і па магчымасці больш падрабязна.

**Каліноўскі.** Не думайце, што следчыя падцягвалі мяне на дыбе, садзілі на ножку табурэткі ці заганялі іголкі пад пазногці. Не. Яны нават не карысталіся электрашокавай машынкай, якую ведаюць вязні расійскіх фільтрацыйных лагераў у гарачых кропках.

**Сапежанка.** Не адхіляйцеся ад пастаўленага пытання!

**Каліноўскі.** Калі не адхіляцца, то мяне проста кінулі ў камеру для крымінальнікаў. Іх было дзевятнаццаць на пятнаццаць квадратных метраў. Я – дваццаты. Усіх некалькі дзён кармілі толькі селядцамі і не давалі вады.

**Муравьёв.** Вы можете это доказать?

**Каліноўскі.** Я магу толькі пацвердзіць – крымінальнікі ведалі, што пакутуюць праз мяне, і кожны дзень білі – наладжвалі "цёмную", каб я напісаў усё тое, што патрабуе следчы.

**Муравьёв.** Если вы не докажете заявленного, прокуратура оценит это как клевету и провокацию против органов следствия.

**Касцюшка.** Паважаны суд, я павінен напомніць пракурору, што абавязак даказваць ляжыць на абвінаваўцы.

**Каліноўскі.** Нічога, я крыху дапамагу пракурору. *(Здымае з сябе турэмную куртку).*

*На Каліноўскім белая сподняя сарочка, нібы перахоплена па грудзях чырвонай паласой з няроўнымі краямі. Канвойныя адмыкаюць клетку.*

**Муравьёв.** А вот это уже политическая демонстрация в суде! И я требую от председательствующего или сорвать с подсудимого знамя полицейщины и национал-радикализма, или вести дальнейшее разбирательство дела в закрытом судебном заседании.

*Канвойныя ўрываюцца ў клетку і спрабуюць сарваць сарочку з Каліноўскага.*

**Сапежанка** *(падняўшыся з-за стала, вельмі рашуча і катэгарычна)*. Суд патрабуе ад канвою не перавышаць сваіх паўнамоцтваў і пакінуць падсуднага ў спакоі!..

*Канвойныя пакідаюць клетку.*

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Давайце спяваць па-беларуску

## ЗДУМАЛА МАЦІ МЯНЕ АЖАНІЦЬ

Музыка і словы Міхася Скундзя




Здумала маці мяне ажаніць.
Стаў я па хатах да дзевак хадзіць,
Каб выбраць сабе найлепшую з іх,
Бо сам быў, вядома, не кепскі жаніх.

Вечарам летнім пайшоў да адной,
Вельмі прыгожай, прывабнай такой.
Ды толькі яна сябе усё глядзіць,
А там ні прыбраць, а ні есці зварыць.

Угледзеўшы гэта, падумаў аб тым:
Возьмеш гультайку – схуднееш зусім.
А што прыгажосць дык хутка зляціць,
З яе, як вядома, вадзіцы не піць.

Злы і галодны валокся дамоў,
У крайнюю хату напіцца зайшоў.
Зірнуў я ў акно, зірнуў я яшчэ,
А ў хаце дзяўчына аладкі пячэ.

Хоць і не вельмі прыгожа сабой –
Прапанаваў ёй стаць жонкай маёй,
Бо ведала, як, чым прываражыць,
Што шлях у маё сэрца
Праз страўнік ляжыць.

# Жывая кніга прыроды

### Для педагогаў дашкольных установ. Укладальнік Ірына Марачкіна

#### ВЯСНА. ТРАВЕНЬ (МАЙ)

Травень – гэта старажытнабеларуская назва месяца. Яна паходзіць ад слова "трава". Менавіта ў гэтым месяцы зямля пакрываецца зялёным дыванам з розных траў.

У зялёнае ўбранне апранаюцца таксама дрэвы. Першай "расплятае свае косы" бяроза.

У траўні квітнее чаромха. Звычайна пад час яе цвіцення надараюцца халады. У народзе іх называюць "чаромхавымі".

Пасля чаромхі зацвітае бэз. Бэз, у адрозненне ад чаромхі, любіць цёплыя і сонечныя дні.

У бялюткім убранні – сады. З надыходам цяпла наяўляецца шмат рознай машкары. У гэты час вяртаюцца з выраю ластаўкі і стрыжы, якія кормяцца насякомымі.

Травень – месяц птушных спеваў.



#### МАЙ

Май –
То брат вясны
Старэйшы,
Самы светлы,
Весялейшы.
Усю ноч
Не засынае.
З салавейкам
Ён спявае.
Сад расквеціў
Белым цветам,
Надыходу чакае
Лета.

*Авяр'ян Дзяружынскі.*

#### ЛІСЯ, ДОЖДЖЫК!

Ліся, ліся,
Дождж вясновы,
На сады і на дубровы,
На сцяжынкі і палеткі,
На бабуліныя кветкі

Я праз лужыну скачу.
Змок мой чуб і нос.
Ліся, дождж ык,
На мяне,
Каб хутчэй я рос!

*Леанід Пранчак.*

#### МАЙ

Толькі-толькі грымне першы
Стэл магутны перуновы –
Пад вярбінай прыбярэжнай
Хлопчык Май
прачнецца ў сховах.
Зломіць сук, галінкі зрэжа
І змайструе грайку-дудку,
Сук жа зломаны з усмешкай
Уваткне над строманй хуткай.
Чуеш, чуеш, спеў вясновы
Хлапчуковай звонкай дудкі?
Бачыш: мёртвы сук нанова
Прарастае веццем гнуткім?!

*Алег Мінкін.*

* * *

Быў якраз пачатак мая.
Ну й была тады вясна!
Ось такая, што бывае
Можа ў сотні лет адна:
Было ў меру ўсё і ў пору:
Дождж ык пройдзе, зноў цяпло,
Травы, краскі гнала ўгору
На прасторы, на святло.
Выйдзеш з хаты надасвеце,
Так і піў бы дух зямлі.
І раслі б, здаецца, дзеці,
Каб іх кінуць на раллі.
А дзянёчак як настане,
Тая ранічка вясны!
Кропля роскі на каштане
Блеск запальвае дзіўны;
У ёй зорчын смех блукае,
І вясёлкі ў ёй дрыжыць,
А лес радасцю гукае,
Шчасцем вее сенажаць.
А вакол так ціха-гожа,
А паслухаеш – чутно,
Як расце трава і збожжа –
Нівак сведае руно.
І з зямлі празрыстым парам
К небу ўзносіцца туман,
Як малітва сонцу, хмарам,
І дрыжыць, гарыць пажарам
Скат узгоркаў і курган.
Ну, вясна была на дзіва!

*Урывак з паэмы Якуба Коласа "Сымон-музыка"*

#### СЦЕРАЖЫСЯ

На купіне жаба прысела.
Заснула на сонейку смела,
- Жабулька, ты спі адным вокам –
Буслы тут зусім недалёка.

*Ніна Галіноўская.*

#### ЯРЫЛА

Ярыла – Бог урадлівасці, любові, сілы і адвагі. Гэта малады, прыгожы юнак у белым плашчы і з вянком кветак на галаве. Ён раз'язджае на белым кані, трымаючы ў руках жменю аржаных каласоў. У Юр'яў дзень Ярыла па загаду маці Лады адмыкае вароты неба і на белым кані прыязджае на зямлю. З яго прыездам пачынаецца сапраўдная вясна. У гэты ж дзень упершыню выпускаюць жывёлу ў поле. У гонар Ярылы ў канцы красавіка дзяўчаты ладзілі вясёлую ўрачыстасць: адну дзяўчыну ўбіралі за Ярылу, апрануўшы яе белаю прасцінкаю, на галаву клалі вянок з палявых кветак, саджалі на белага каня і навокал вадзілі карагод, пяючы:

А дзе ён нагою – там жыта капою.
А дзе ён зірне – там колас зацвіце!

Праўдападобна, старажытны беларускі герб Пагоня выводзіць свой пачатак ад Ярылы.

*З беларускай міфалогіі.*

#### ВІШАНЬКА

Юная вішанька тонкая
Поруч з разгалістай грушаю.
Голая чорная кронка
Дробным сняжком зацярушана.
Тут
раўнадушна
раз тысячу
Бегаў я раніцай кожнаю.
Сёння ж
на ганак ледзь выскачыў –
Так і прыціх,
заварожаны.
Раннія ветры вясеннія
Гэткім прыгожым зрабілі ўсё;
Быццам хусцінкай вясельнаю,
Вішанька цветам акрылася,
Стала ля грушыны стройнаю,
Белаю, чыстаю, юнаю,
З горда ўзнятаю кронаю –
Дзеўчынай-прыгажуняю.

*Генадзь Бураўкін.*

#### ЗЯЛЁНЫ ЛІСТОК

Над ручайковай песняй
Пануе цішыня.
Лісток з пушынкі цеснай
Глядзіць, як птушаня.
Вялікая турбота
Да лісціка прыйшла, -
Імкнецца ўсёй істотай
Да сонца, да святла.

*Васіль Жуковіч.*

#### ДОБРЫ ЧАЛАВЕК

Як слаўна, як хораша ўранку
На ўзлессі вясновай парой!
І хлопчык прыбег на палянку –
Ён чуецца тут як герой.
Нічога смяльчак не баіцца –
Ён мае арэхавы прут,
Каб нават ад воўка адбіцца,
Калі той надарыцца тут.
Вось бачыць ён яркую зёлку,
Памкнуўся яе сашчыкнуць –
Ды ўгледзеў на балцы кароўку,
Што божай адвеку завуць.
Паўзе яна ўгору няспешна,
Занятая справай сваёй.
Любуецца хлопчык уцешна
І лічыць "радзімкі" на ёй.
Кароўка ж у крапачках дробных
Спакойна былінку хіне.
- Я знаю: ты добры, ты добры –
І ты не пакрыўдзіш мяне!..
На хвілю задумаўся хлопчык
Дый бегма пусціўся ўпадскок.
Аж бачыць: ля сцежкі, на ўзбочча –
Малюсенькі, кволы дубок!
Яшчэ і лісточкаў зялёных
На дрэўцы нямнога зусім.
І хлопчык, як быццам знаёмы,
Прыветна схіліўся над ім.
А юны нашчадак дубовы
Зашоркаў лісткамі, бы ў сне:
- Я знаю: ты добры, ты добры –
І ты не пакрыўдзіш мяне!
Ад радасці хлопчык наўзавад
Гатоў быў імчацца праз лог,
Ды раптам, спалохаўшы нават,
Успырхнула птушка з-пад ног.
Зірнуў ён – а долка гняздзечка
З травінак-былінак сухіх
І пяць жаўтаватых яечак,
У шэрачках-плямках рудых.
А птушачка, сочачы зводдаль,
"Ю-лі" ды "ю-лі" на сасне:
- Я знаю: ты добры, ты добры –
І ты не пакрыўдзіш мяне!..
Яшчэ весялейшым зрабіўся
Наш хлопчык... Далей ён бяжыць
І зноў у здзіўленні спыніўся:
Крынічка ў аеры блішчыць!
Празрыстая – нібы акенца,
І бачна, як з долу, са дна –
Бы сэрца жывое там б'ецца –
Штуршкамі пульсуе яна.
І хлопчыку чуцен цудоўны,
Бязгучны той булькат на дне:
- Я знаю: ты добры, ты добры –
І ты не пакрыўдзіш мяне!..
Ах, як гэта радасна ведаць,
Што, лічачы сябрам сваім,
Усе цябе любяць і вераць,
Што крыўды не зробіш ты ім!
Вяртаецца хлопчык дахаты
І свеціцца ўвесь нездарма,
І песенька вясняга свята
Зрываецца з вуснаў сама.

*Ніл Гілевіч.*

Рэдактар Станіслаў Суднік

Заснавальнік: ТБМ імя Францішка Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі: № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
Адрас рэдакцыі: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Адрас для паштовых стасункаў: 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by
WEB-старонка: http://tbm.org.by/ns/

Рэдакцыйная калегія:
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 15. 05. 2000 г.
Наклад 3200 асобнікаў. Замова № 1312
Падпісны індэкс: 63865.
Кошт падпіскі: 1 мес.- 134 руб., 3 мес.- 402 руб.
Кошт у розніцу: 35 руб.